Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год І. Вільня, Пятница, 27 чэрвеня 1919 г. № 30.

## Вайна і мір.

Пасьля 4 гадоў 11 месяцаў і 4 дзён (1878 дзён) скончылася вялікая ўсясьветная вайна, пачатая народамі з за палітычнай і эканамічнай барацьбы, якая абвострылася найболей ў 1914 годзе.

Нямеччына кінулася на варожых суседзяў, маючы надзею хутка іх разбіць і потым скарыстаць пабеду і з палітычнага і эканамічнага бакоў. На доўгім працягу дзён, месяцаў і гадоў немцы былі нападаючай стараной і, трэба казаць праўду, ваявалі яны добра, бʼючы сваіх супраціўнікаў тэхнікай і стратэгіяй, кіколі ня маючы перавагі у ліку войска.

Праціў немцаў паўстаў бязмальна ўвесь сьвет, застрашаны зданьнём нямецкай гэгэмоніі.

Цяпер немцы пабіты, іх хаўрусьнікі: Аўстра-Вэнгрыя і Турцыя саўсім развалiлiся і чуць дыхае прыдушаная Баўгарыя.

Нямеччына надзела цяжкое ярмо, каторае ёй прыйдзецца насіць не адзін год.

Вайна скончана. Настаў мір, але толькі на паперы, бо страсьці чалавечыя кіпяць, як і перад скончанай вайной, і няма ніякай гарантыі, што йзноў яна не разгарыцца, бо вогнішча яшчэ дыміць і трэскае і «пажарныя» ніякімі спасабамі ня могуць покуль што яго затушыць.

Замест вайны паміж вялікімі дзяржавамі, ідзе вайна паміж малымі, каторым, мусіць, абрыдла быць на батрацкім палажэньні ў вялікіх народаў, і яны, не дачакаўшыся паляпшэньня свaёй долі і прызнаньня незалежнасьці, стараюцца сваймі сіламі знайсьці лепшую долю.

Можна напэўна сказаць, што пакуль ня будуць вырашаны пытаньні аб незалежнасьці малых народаў, мірныя ўмовы яшчэ доўга будуць «шматкамі паперы», бо ня будзе роўнасьці паміж сабою ўсіх: і вялікіх і малых.

Прызнаньне незалежнымі ўсіх ёсьць самы першы ідэал, які не павінен быць забытым ніколі. А хто рупіцца на чужое дабро, на чужыя землі, на вольнасьць народную, той ёсьць першы здраднік і пачынальнік ўсясветнага няшчасьця—вайны.

Мір прыдзе к народам з іх незалежнасьцю. А да тэй пары заўсёды будзе вайна, скольні-б умоў не напісаць.



# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*21 чэрвеня.*

**Фронт Галіцыйска - Валынскі.**

У Галіцы на цэлым фронце часова баявой дзеяльнасьці ня было. На Валыні пад Рафалаўкай атака непрыяцеля была адбіта агнём нашай артылерыі і кулямётаў. Вораг панёс вялікія страты.

**Фронт Палескі.**

Бальшавіцкія бранявікі заатакавалі нашы пазыцыі над Прыпяцьцю каля Парасельцаў і Качановічаў. Пасьля кароткай бойкі яны змушаны былі адыйсьці.

**Фронт Літоўска-Беларускі.**

Атакі непрыяцеля на Паставы узмоцніліся пры сільнай дзеяльнасьці артылерыі Усе атакі адбіты, пры гэтым у аднэй з нашых контр-атак мы забралі некалькі дзясяткаў палонных і 3 кулямёты. На другіх пунктах фронту спакойна. 21 чэрвеня дзьве станцыі Менска былі удачна бамбардаваны нашымі лётчыкамі пар. Вільманам, Крынскім, падп. Кучынскім і сержантам Загасэка.

### Канец вайны між чэхамі і венграм

ПРАГА, 24 чэрвеня. Чэскі урад у Празе атрымаў радзіатэлеграму ад Клеманса з Парыжу з ніжэйсьледуючаю пастанавай. Водле загаду начальніка хаўрусных войск маршала Фоша, начальнік чэскай арміі на Славацыі, Пелле, павінен адзначыць дзень і гадзіну, калі мадзярскія войскі павінны ачысьціць чэска венгерскія абшары. Далей Пелле мусіць адзначыць срок, у які яны павінны выйсьці. Пасьля гэтакага тэрміну, яны крануцца з цяперашніх пазыцый і займуць пакінутыя венгерцамі абшары, ня праходзячы граніц Чэска-Славацкай рэспублікі. Афіцэры амэрыканскай, ангельскай і французкай армій будуць кантраляваць выхад гэтых войск і данясуць Антанце пад якімі варункамі ачышчэньне будзе зроблена. (П. А. Т.).

### Польска-Літоуская дэмаркацыйная лінія.

«Głos Litwy» даведаўся, што Антанта ўстанавіла новую дэмаркацыйную лінію між войскам польскім і літоўскім. Лінія гэтая пачынаецца між Аўгустовам і Лыкам, праходзіць праз Аўгустоўскі канал міма Сопоцкінь, пакідаючы лiцьвіном Друскенікі. Далей без мала да самага мястэчка Дукшы йдзе на 5 кілямэтраў ад лініі чыгункі: Горадня-Дзьвінск. Гэткім чынам Горадня застаецца з боку польскага. Ад Вільні літоўскае войска будзе стаяць у адлегласьці 5 кілям. Сувалкі застаюцца з боку літоўскага.

Папера Антанты кажа, што лінія гэта ўстаноўлена тымчасова толькі для вайсковых спраў. Астатэчная граніца між Літвой ды Польшчай будзе устаноўлена пазьней.

### Замірэньне.

ВЕНА, 23 чэрвеня. У панядзелак у 4 г. 40 м. нямецкі дэлегат ф. Ганель пе-

радаў ноту старшыне мірнай канфэрэнцыі аб тым, што Нямеччына згодна прыняць варункі міра беза ўсякіх паправак.

(П. А. Т.)

### Вымаганьне ген. Фоша.

НАУЭН, 23 чэрвеня. Ген. Фош паслаў старшыне нямецкай камісіі заміраньня у Спаа тэлеграму, у якой ад імені хаўрусных дзяржаў, патрэбаваў ад Нямеччыны, каб яна стрымала пасуваньне у бок Эстоніі і выйшла з Лібавы і Віндавы, а таксама ачысьціла ўсе тэрыторыі. якія лічыліся да вайны прыналежнымі да Расеі.

(П. А. Т.)

### Дзе будзе Рада Народаў?

ПАРЫЖ, 23 чэрвеня. «Рада Чатырох» пастанавіла што Рада Народаў і Эканамічная Рада павінны быць на заўсёды ў Лёндане.

### Палітыка Лойд-Джорджа.

ЛЕНДАН. Кар. «Св. Сл.» падае, што некаторае зьмягчэньне варункаў, якое зрабіў для немцаў англійскі прэмьер, мае высьненьне у блізасьці яго да «Labour party». Сябры «Labour party» некалькі разоў выезджалі для нарады з Лойд-Джорджам у Парыж. Сувязь з гэтай партыей мае вялізны ўплыў на яго папулярнасьць у дэмакратычных кругох у Англіі.

### Адстаўка Брокдорф-Рантцау.

БЭРЛІН, 23 чэрвеня «В.С am Mittag» падае да ведама, што замест Брокдорф-Рантцаў старшынёй мірнай дэлегацыі будзе Эрцбергер.

(П. А. Т.)

### Адказ на нямецкую ноту.

ПАРЫЖ, 23 чэрвеня. У суботу «Рада Чатырох» абсудзіла нямецкую ноту ад 20 чэрвеня, у якой яны адзначаюць рожніцу між дакумэнтамі ад 7 мая і дакумэнтам ад 19 чэрвеня. Адказ зараз жа быў пасланы генэральнаму сэкрэтарыяту нямецкай мірнай дэлегацыі у Вэрсалі, а сягоньня абвешчан таксама у Лёндане і Парыжу. Адказ гэты лічыць у сабе: 1) ліст за подпісам Клемансо, у якім кажацца, што праўдзівым тэкстам павінна лічыць толькі ўручаны дэлегацыі 19 г. м.; 2) ноту з атказамі на пытаньні, закранутыя Брокдорф-Дантцаў; 3) пратакол з апошнімі умовамі трактату. Пратакол гэты трэба лічыць дадаткам да умовы.

(П. А. Т.)

### Бальшавікоў б'юць

ПАРЫЖ, 23 чэрвеня. З Екацерынадару пішуць: што бальшавікі уцякаюць у Харкаў. 1000 палонных, сотні вагонаў, 30 паравозаў захапілі войскі Денікіна.

(П. А. Т.)

### Бамбардзіроўка Менска.

ВАРШАВА, 23 чэрвеня. 21 чэрвеня польскія лётчыкі з пасьпехам закідалі бомбамі два вакзалы у Менску.

(П.А.Т.)

### У Італіі новы кабінэт.

РЫМ, 23 чэрвеня. Прэмьерам новага італьянскага кабінэту назначаны Нітті, міністрам загранічных спраў Тітоні, міністрам калоній Грассі і міністрам юстыцыі Макора.

(П.А.Т.

### Камісія у Польшчу, каб выясьніць адносіны да жыдоў.

ЛЕНДАН, 23 чэрвеня. Бюро Рэйтэра апавяшчае, што прэзыдэнт Вільсон згодзіўся на прапазыцыю старшыні кабінэту міністраў Падарэўскага, аб пасылцы у Польшчу камісіі. каб выясьніць пытаньне аб анці-жыдоўскіх эксцэсах.

### Немцы папалілі францускія штандары.

БЭРЛІН, 24 чэрвеня. Як піша «Berliner Ztg. am Mittag», сягоньня, у 10 г. на раніцы, 200—300 салдатаў бэрлінскага корпусу і некалькі студэнтаў, арыштованых на вуліцы П ад Ліпамі забралі адтуль францускія штандары, адабраныя немцамі у 1871 року, каторыя павінны былі быць водле мірнага трактату аддадзены Франціі.

Штандары гэтыя занесены былі пад памятнік Фрыдрыха Вялікага, дзе іх аблілі бянзінам і спалілі.

(ПАТ).

### Паўстаньне у Сілезіі.

ВАРШАВА. 25 чэрвеня. Польскія жыхары у Сілезіі пад уражаньнем прыняцьця немцамі мірнага трактату вельмі хочуць зараз-жа скінуць нямецкае ярмо. Пакуль што пэўных вестак аб гэтым руху няма.

Учора абстрэляны нямецкі самалёт пад Чанстаховай. Сягоньня нараніцы каля Гербуў прыехалі 2 батальёны нямецкіх войск (пяхоты). У Казельскім павеце, у Горнай Сілезіі польскія жыхары, не маючы магчымасьці цярпець больш ад немцаў, пачалі з імі бойкі.

Крывавыя бойкі ідуць.

### Немцы затапілі свой флот.

ЛЕНДАН, 24 чэрвеня. Інтэрнаваныя ў затоцы Скаген баявыя нямецкія парахо-

## Дзьве душы.*)

IV.

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі; а ў тых вачох радасна-вясёлы, ціхі сьмех,—вось гэткая Аля Макасеева, старэйшая дачушка N-га дамаласьніка, што нажыў за вайну вялікія мілёны.

Апошнія два гады Макасеі з пачатку вясны і да астатніх дзён сэзона жылі на Каўказскіх курортах, а з прыгоды рэвалюцыі і голада ў N. стары Макасей, хаця-ж сам бавіў найболей у N., надумаўся купіць у Пяцігорску ці Кіславодзку дом і пакінуць там сям'ю сваю на ўсю зіму.

Пад канец сэзону курорт быў бязьлюдны, і ў адсутнасьць свайго старога мадам Макасеіха, ад нуды, ахвотна запрашала да сябе афіцэраў, што лячыліся там. Ня бачыла яна у тых знаёмствах нічога асаблівага і старалася толькі бавіць сябе і сваю капрысную супярэчніцу Алечку.

Часам пісала у лазарэт пісульку, рыхтавала стол з фруктамі, віном і папіросамі, і моладзь узьяўлялася скакаць і весяліцца, піць і есьці.

Алечка лятуцела быць балярынаю, танцавала многа і з вялікай прыемнасьцю, а матулька бавіла час на балконе у гутарках з князем Гальшанскім, каторы ня любіў сябраваць з афіцэрамі простага роду, дзеля таго што яны, зазвычай, нядобра узгадованы. І чорная маленькая мецінка, падобная да барадаўкі, на верхняй губе, збоку, не магла зьмякчыць яго грэблівай замкнутасьці, а давалі навет часам, выгляд дурнаватай, здаволенай пышнасьці.

Князь не хаваўся, што ня любіць яму Абдзіраловіч, другі паўсёдны гасьцяваньнік макасееўскага дому. А той чуў да князя тое самае: памятаў ліпнёвую ноч у купэ, як князь еў парасёнка. І калі у прысутнасьці князя маці дражніла Алечку Абдзіраловічам, казала, што дзяўчына трызьніць ім ува сьне і ў яві і клоніцца яму быццам Богу — гвардзеец быў маўклівы, уважаў, што за нудою і так ужо вельмі рызыкоўна бярэць ў абшар сваіх знаёмых нежаданы элемент.

Аля яшчэ ніколі, бадай, не кахала і ня ведала, ці так, наагул, кахаюць, як яна Абдзіраловіча.

У парку, зраньня, сьцярог ён, калі, ці скора пакажацца яе лёгкая фігурка з курчаваю, бяз хвусткі, чорнай галоўкаю сярод грудка маленькіх браткоў і сястрыц.

І быў несказана як рад, калі яны усёй вятачкай валілі к лавачцы, дзе сядзеў ён; хлопчыкі пасалдацку казыралі, а дзяўчынкі прысядалі, вітаючы, і потым лезьлі яму на плечы.

Яна-ж ведала, што яму салодка карціць адыйсьціся з ёю удвох у глыб парка ці лезьці на гару і бавіцца там.

Яны часта уздумавалі на сваю першую сустрэчу у Маскве на вагзале, калі яна усьмяхнулася яму, а ён адхіліў свае вочы.

Яны даўна сказаліся сабе, што любяцца і згаварыліся чакаць да налецьця. Яна-ж спадзявалася, што незабавам прыедзе бацька; вельмі хацела паведаць старому радасную тайну сваю і пахваліцца Ігналікам. Болей нікому ня ймела яна веры. Ігналік павінен быў спадабацца Міколе Мартынавічу, яна была у гэтым пэўна

Аднойчы Абдзіраловіч распачаў гутарку аб яе паглядах на пахаджэньне з роду, багацьце і—як уважае палітычныя пытаньні, але яна, відаць, зразумела так, што каханак бяднейшы за яе, і зажмала яму рот бусямі, прасіла, каб болей не казаў аб палітыцы.

Ен пачуў прыкрасьць і боль, адылі супакоіў сябе, што вінават, гэта, буржуазны лад жыцьця, а яна не вінавата.

І зараз на тое забыўшыся, дзівіўся, што гэта у душы яго з якою-сь прыкрасьцю двaілася. Тымчасам князь, як слова наўмысьля, выдумляў паездкі вярхом у горы, ці ў экіпажах ў італьянскую калёнію—есьці мёд і купляць віно. І Абдзіраловіч мусіў сачыняць у галаве розныя добрыя прыгоды, каб адмовіцца, бо ня меў на тое кампанейства грошы.

Цалюткі дзень меўся ён тагды у парку з яе братамі і сястрыцамі, і яны пыталіся, што яму, што ён гэтак засмуціўся; і з дзяцінай простасьцю пацяшалі, што Аля увечары прыедзе.

Іногды чакаў бязплодна аж да паўночы і раздзіраўся балючаю бязьверы-

*) Гл. № 24—29.

